ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 29 ліпеня 2000 года

№ 58 (8127)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ
### перадавікоў на жніве-2000

### Экіпажы камбайнаў

*Мікалай Мікалаевіч* **Дрозд** *і Мікалай Іванавіч* **Белакурскі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на Е-527 намалацілі* **285 тон збожжа.**

*Сяргей Лаўрынавіч* **Іваноў** *і Аляксандр Анатольевіч* **Міхалап** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **144,4 тоны збожжа.**

*Аляксандр Сяргеевіч* **Петранкоў** *і Аляксей Міхайлавіч* **Макаронак** *з СКП "Ніва" на "Дон-1500" намалацілі* **134 тоны збожжа.**

*Рыгор Леанідавіч* **Асташоў** *і Сяргей Іванавіч* **Навумаў** *з СКП "Ніва" на "Дон-1500" намалацілі* **124 тоны збожжа.**

*Фёдар Рыгоравіч* **Петрусёў** *і Сяргей Яўгенавіч* **Максімаў** *з калгаса "Камуніст" на "Дон-1500" намалацілі* **120 тон збожжа.**

*Мікалай Анатольевіч* **Масюковіч** *і Аляксей Уладзіміравіч* **Лукановіч** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **111 тон збожжа.**

*Сяргей Давыдавіч* **Аляксееў** *і Аляксандр Фёдаравіч* **Сенчукоў** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **106,2 тоны збожжа.**

*Уладзімір Мікалаевіч* **Комар** *і Анатоль Васільевіч* **Вашукевіч** *з калгаса "III з'езд Саветаў" на "Дон-1500" намалацілі* **93 тоны збожжа.**

*Раман Пятровіч і Андрэй Пятровіч* **Канавалавы** *з калгаса "Камуніст" на "Дон-1500" намалацілі* **90 тон збожжа.**

*Сцяпан Апанасавіч* **Стэльмакоў** *і Аляксандр Міхайлавіч* **Маісеенка** *з саўгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **76 тон збожжа.**

*Уладзімір Аляксеевіч* **Грамыка** *з сынам Канстанцінам з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на СК-5 "Ніва" намалацілі* **64 тоны збожжа.**

*Уладзімір Ільіч* **Бычкоў** *і Васіль Васільевіч* **Буталенка** *з калгаса імя Дзяржынскага на "Дон-1500" намалацілі* **60 тон збожжа.**

*Мікалай Аляксандравіч* **Семянчук** *і Васіль Ціханавіч* **Еўдакімаў** *з калгаса імя Калініна на "Дон-1500" намалацілі* **56 тон збожжа.**

*Сяргей Спірыдонавіч* **Шапоткін** *і Арсеній Аляксеевіч* **Скрыпуноў** *з СЗАТ "Бераснёўскае" на "Дон-1500" намалацілі* **46 тон збожжа.**

*Алег Рыгоравіч* **Барысёнак** *з ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне" ў калгасе "Радзіма" на СК-5 "Ніва"* **разам з памочнікам** *намалацілі* **30 тон збожжа.**

*Аляксандр Міхайлавіч* **Салановіч** *і Сяргей Міхайлавіч* **Чудапал** *з калгаса "Радзіма" на "Дон-1500" намалацілі* **15 тон збожжа,** *якое перавёз С.М.Чудапал.*

### На адвозцы

*Валерый Васільевіч* **Шчэрбіч** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **278 тон збожжа.**

*Георгій Аляксандравіч* **Юркавец** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **277 тон збожжа.**

*Аляксандр Рыгоравіч* **Ермалаеў** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **210 тон збожжа.**

*Аляксандр Савельевіч* **Лапухін** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **141 тону збожжа.**

*Уладзімір Васільевіч* **Малахоўскі** *з СКП "Ніва" на ГАЗ-53Б перавёз ад камбайнаў* **124 тоны збожжа.**

*Аляксандр Якаўлевіч* **Кудаеў** *з СКП "Ніва" на САЗ-5507 перавёз ад камбайнаў* **121 тону збожжа.**

*Мікалай Васільевіч* **Голікаў** *з калгаса "Камуніст" на ЗІЛ-4502 перавёз ад камбайнаў* **120 тон збожжа.**

*Віктар Фёдаравіч* **Сенчукоў** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **109 тон збожжа.**

*Віктар Мікалаевіч* **Габрусь** *з калгаса "III з'езд Саветаў" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **103 тоны збожжа.**

*Віктар Мікалаевіч* **Глушакоў** *з калгаса "Камуніст" на ЗІЛ-4502 перавёз ад камбайнаў* **90 тон збожжа.**

*Аляксандр Савельевіч* **Сямёнаў** *з калгаса "Камуніст" на МТЗ-82 перавёз ад камбайнаў* **69 тон збожжа.**

*Ігар Карлавіч* **Эзрын** *з СЗАТ "Бераснёўскае" на САЗ-3507 перавёз ад камбайнаў* **66 тон збожжа.**

*Васіль Яўгенавіч* **Лугаўцоў** *з калгаса імя Дзяржынскага на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **52 тоны збожжа.**

*Іван Маркелавіч* **Лебедзеў** *з саўгаса імя Кірава на ГАЗ-53Б перавёз ад камбайнаў* **43 тоны збожжа.**

## УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ МЕМАРЫЯЛЬНАГА ЗНАКА

**2 жніўня ў 11 гадзін у скверы каля кінатэатра "Кастрычнік" райцэнтра** *адбудзецца ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага знака воінам-кіраўчанам, прымаўшым удзел у ліквідацыі лакальных канфліктаў.*

*На ўрачыстасці запрашаюцца воіны-інтэрнацыяналісты раёна, дэлегацыі ад працоўных калектываў, жыхары райцэнтра, моладзь.*

**Аддзел інфармацыі райвыканкама.**

Ураджай-2000

## АЗІМАЯ ПШАНІЦА ЎБРАНА

*З серады на чацвер механізатараў калгаса "III з'езд Саветаў" ноч застала ў полі. Абмалаціўшы днём траўлівыя ўчасткі, яны на вечар пакінулі найбольш чыстыя. Усе чатыры "Доны", якія своечасова адрамантаваны ў райаграпрамтэхзабеспячэнні, працавалі спраўна. Таму на збожжаток раз-пораз адыходзілі гружоныя хлебам аўтамабілі. На шчасце, не спяшалася ў той вечар выпасці раса. Падсілкаваўшыся прама ў полі, а механізатараў кормяць двойчы, яны засталіся ў другую змену. Не заўважылі, як была зжата апошняя загонка. Стомленыя і адначасова радасныя вярталіся дадому хлебаробы. Пшаніца была ўбрана на ўсіх 100 гектарах. Настрой уздымала і ўраджайнасць: 25 цэнтнераў на круг тут даўно не малацілі.*



*У чацвер у Пацавай Слабадзе дождж ішоў тройчы. Цёплы, ціхі. Невялікі, праўда, але дастатковы, каб спыніць работу камбайнаў і сапсаваць настрой. За дзень было нажата ўсяго 27 тон жыта, якое ў калгасе займае 270 гектараў. На палявым стане за вёскай Малінаўка мы і сустрэліся з механізатарамі. Старшыня гаспадаркі Аляксей Лукіч Семашкевіч коратка і даходліва давёў патрабаванні Прэзідэнта краіны, якія кіраўнік дзяржавы паставіў перад "вертыкаллю", гаспадарнікамі, усімі кадрамі горада і вёскі на рэспубліканскай селектарнай нарадзе па правядзенню жніва. Тут і падвялі вынікі спаборніцтва паміж экіпажамі з улікам няўдалага з-за пагодных умоў заўчарашняга дня. Лідзіруе на жніве экіпаж вопытных Уладзіміра Мікалаевіча Комара (на здымку з барадой) і Анатоля Васільевіча Вашукевіча, якія намалацілі ўжо 93 тоны збожжа. Усяго на паўтары тоны менш у экіпажа Івана Пятровіча Лазаковіча і Васіля Віктаравіча Храмовіча. Разрыў ад другога і трэцяга месцаў нязначны — 3-5 тон. Дастаткова дробнай паломкі — і лідэр новы. Экіпажы раўніва сочаць адзін за адным яшчэ і таму, што ўмовамі спаборніцтва прадугледжана натураплата. Напрыклад, экіпаж намалаціў 500 тон, атрымай тону хлеба.*



*На адвозцы збожжа пакуль што лепшы паказчык у Віктара Мікалаевіча Габруся, якога вы бачыце на здымку. На яго рахунку 103 тоны.*

*Ёсць пэўныя цяжкасці з уборкай саломы. Яна не сціртуецца ў полі з-за адсутнасці стагакідаў і трактарных валакуш, а скатваецца ў рулоны і звозіцца да фермы. Частку саломы маркуюць закласці ў траншэі разам з зялёнай масай з траў другога ўкосу.*

*Збожжа адразу ж дапрацоўваецца на таку, дзе арганізавана дзяжурства спецыялістаў. Учора першыя тоны пшаніцы адпраўлены на камбінат хлебапрадуктаў.*

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

У прафсаюзах

## ПРАЦОЎНАЕ СПАБОРНІЦТВА НА ЖНІВЕ

Пачатку масавай уборкі зерневых культур папярэднічала нарада старшынь прафсаюзных камітэтаў гаспадарак і прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу раёна, праведзеная ў райкаме прафсаюза работнікаў АПК. Тэма размовы тычылася арганізацыі працоўнага спаборніцтва на жніве, стымулявання высокапрадукцыйнай і якаснай работы, стварэння належных умоў працы ўдзельнікаў уборачнай кампаніі.

Асабліва была падкрэслена неабходнасць публічнасці асвятлення ходу працоўнага саперніцтва. І тут усе спосабы да месца: уздым флага на цэнтральнай сядзібе гаспадарак з абавязковым пералікам імёнаў і прозвішчаў перадавікоў жніва, штодзённае падвядзенне вынікаў работы і іх адлюстраванне на экране спаборніцтва, уручэнне чырвоных сцяжкоў перадавым экіпажам, падзячных пісьмаў за старанную працу і г.д. Немалаважным бачыцца і стварэнне належных умоў працы занятых на ўборачнай: забеспячэнне іх гарачымі абедамі, спецвопраткай.

Як адзначыў у сваім выступленні старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК М.С.Худавец, першачарговай задачай старшынь прафкамаў, актыву з'яўляецца давядзенне ўмоў спаборніцтва да кожнага ўдзельніка жніва, своечасовае і аператыўнае падвядзенне яго вынікаў, публічнасць, у тым ліку занясенне на Дошку гонару раённай газеты "Кіравец". Адметна, што ўмовамі раённага спаборніцтва для гаспадарак-пераможцаў жніва-2000 меры матэрыяльнага заахвочвання разам з кіраўнікамі і галоўнымі спецыялістамі прадугледжаны і для старшынь прафкамаў.

Удзел у нарадзе прыняў і выступіў перад прысутнымі старшыня абкама прафсаюза работнікаў АПК С.Ф.Крутаўцоў.

**Уласн. інфарм.**

У дапамогу дакладчыкам

## АБ ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕННЯ ВЫБАРАЎ ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ І ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Прадстаячая восень 2000 года ў адпаведнасці з тэрмінамі, вызначанымі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца перыядам фарміравання новых саставаў Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Не пазней 27 кастрычніка 2000 года ў рэспубліцы адбудуцца выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і не пазней 13 снежня 2000 года — выбары членаў Савета Рэспублікі.**

Упершыню гэтыя кампаніі будуць праходзіць у адпаведнасці з Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь, які ўступіў у сілу з 26 сакавіка 2000 года. Палата прадстаўнікоў складаецца са 110 дэпутатаў, якія выбіраюцца на падставе ўсеагульнага свабоднага роўнага прамога выбарчага права пры тайным галасаванні. Савет Рэспублікі з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва. Ад кожнай вобласці і горада Мінска выбіраецца па восем членаў Савета Рэспублікі. Восем членаў Савета Рэспублікі прызначаюцца Прэзідэнтам нашай краіны. Тэрмін паўнамоцтваў Парламента — 4 гады, выбары новага саставу палат Парламента прызначаюцца не пазней чатырох месяцаў і праводзяцца не пазней 30 дзён да заканчэння тэрміна паўнамоцтваў палат дзеючага склікання.

Указам Прэзідэнта РБ ад 13 ліпеня 2000 года №384 прызначаны выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання. Дадзеным Указам вызначаны асноўныя арганізацыйныя ўмовы і дата іх правядзення.

14 ліпеня г.г. у рэспубліканскіх дзяржаўных газетах апублікаваны спісы выбарчых акруг з указаннем іх назваў, нумароў, межаў, колькасці выбаршчыкаў і месц знаходжання выбарчых камісій.

Сярэдняя колькасць выбаршчыкаў на выбарчую акругу па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў складае 67053 чалавекі, выбарчыя акругі ўтвараюцца з прыкладна роўнай колькасцю выбаршчыкаў, адхіленне тут не павінна перавышаць 10 працэнтаў. Указаныя патрабаванні па стварэнню акруг з'яўляюцца адным са спосабаў забеспячэння прынцыпу роўнасці паміж кандыдатамі ў дэпутаты.

У нашай Магілёўскай вобласці створана 13 выбарчых акруг.

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў забяспечваюць выбарчыя камісіі: Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, акруговыя выбарчыя камісіі, участковыя выбарчыя камісіі. Выбарчыя камісіі незалежныя ў межах сваіх паўнамоцтваў ад дзяржаўных органаў і органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання. Рашэнні камісій, прынятыя ў межах іх паўнамоцтваў, абавязковыя для выканання ўсімі дзяржаўнымі органамі, палітычнымі партыямі, іншымі грамадскімі аб'яднаннямі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, грамадзянамі. Акруговыя камісіі ствараюцца не пазней чым за 75 дзён да выбараў у саставе 9-13 членаў, у іх састаў уключаюцца прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў і выбаршчыкаў. Выбарчая камісія паўнамоцная, калі ў яе рабоце прымае ўдзел не менш двух трэціх саставу камісіі. Асобы, якія ўваходзяць у састаў камісіі, не маюць права прымаць удзел у агітацыі "за" або "супраць" кандыдата ў дэпутаты.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*Камісія разгледзела*

# ЗА ПАРУШЭННЕ ПРАВІЛАЎ ГАНДЛЮ

**На чарговым пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі райвыканкама, якое адбылося 25 ліпеня, быў разгледжаны шэраг пратаколаў, складзеных супрацоўнікамі групы эканамічнай злачыннасці раённага аддзела ўнутраных спраў па фактах парушэння работнікамі некаторых магазінаў раёна правілаў гандлю. Трэба адзначыць, Кодэксам РБ "Аб адміністрацыйных правапарушэннях" прадугледжаны вельмі строгія санкцыі за дзеянні работнікаў прылаўка, якія ідуць уразрэз з зацверджанымі правіламі гандлю, значныя і сумы штрафаў.**

Прадстаўнікамі РАУС было выяўлена, што ў некалькіх гандлёвых кропках знаходзіліся ў продажы харчовыя тавары з закончаным тэрмінам рэалізацыі: 4 кілаграмы зефіру ў шакаладзе — у Чыгірынскім магазіне тавараў штодзённага попыту, такі ж зефір у шакаладзе і сушкі ванільныя — у Нямкоўскім, шакалад — у "Шашлычнай" камбіната грамадскага харчавання. Загадчыкі і работнікі гэтых гандлёвых і грамхарчаўскага прадпрыемстваў В.В.Мінчукова, М.В.Сідарава, С.В.Лазаковіч панеслі адказнасць. Безумоўна, ім трэба быць больш уважлівымі і своечасова паведамляць кіраўнікам зон аптова-рознічнага гандлёвага прадпрыемства "Каапгандаль" аб наяўнасці тавараў, у якіх хутка закончыцца тэрмін рэалізацыі, а тым, у сваю чаргу, больш разумна займацца пераразмеркаваннем харчовых тавараў, што залежваюцца ў адным магазіне, у іншыя.

Строгія меры адказнасці прадугледжаны Кодэксам за ўтойванне тавараў ад пакупнікоў. Так, у магазіне в.Стайкі ў нябачным для наведвальнікаў месцы супрацоўнікі групы эканамічнай злачыннасці знайшлі 2 бутэлькі шампанскага і пачак цыгарэт "Гродна". Прадаўцу Т.М.Кананові давядзецца выкласці з уласнай кішэні пяць мінімальных заработных плат штрафу.

Прадавец магазіна тавараў штодзённага попыту в.Букіно А.В.Навіцкая прадала бутэльку віна непаўналетняму, што таксама з'яўляецца парушэннем правілаў гандлю. На камісіі яна сцвярджала, што хлопец выглядаў даволі сталым. У выпадку сумненняў неабходна патрабаваць у жадаючага набыць спіртное дакумент, пацвярджаючы яго ўзрост, каб не трапіць у непрыемную сітуацыю і не панесці страты ўласных грошай — а штраф склаў дзве мінімальныя заработныя платы.

Значная колькасць жыхароў раёна панесла адміністрацыйную адказнасць за наяўнасць у іх агародах і палісадніках пасеваў маку. Гэта Н.Г.Гузялевіч з Чыгірынкі, кіраўчане М.А.Бяляўская і Г.К.Зямцова, А.С.Лабковіч і А.П.Каліноўскі з в.Гарадзец, іншыя. На першы раз яны атрымалі папярэджанні, але і ім, і іншым гаспадарам не трэба забываць, што мак — сыравіна для вырабу наркатычных сродкаў, і яго вырошчванне забараняецца законам.

І амаль ніводнае пасяджэнне адміністрацыйнай камісіі не абыходзіцца без разгляду пратаколаў па фактах распіцця спіртных напіткаў з непаўналетнімі. На гэты раз п'янку наладзілі навучэнцы Жыліцкага сельгаскаледжа: чацвертакурснік Канстанцін Корнеў і першакурснікі Юрый Ільін і Руслан Дзядкоў. Прыкупілі дзве бутэлькі гарэлкі і столькі ж віна, пачаставаліся, а потым вырашылі прыгатаваць вячэру. Відаць, надта гучна гатавалі, што прыцягнулі да сябе ўвагу выхавальніка. Адказваць прыйшлося паўналетняму Канстанціну Корневу. Няхай гэты прыклад паслужыць урокам для іншых маладых людзей, якія не прэч зазірнуць у бутэльку.

**Наталля ХАДАКОВА,**
**член адміністрацыйнай камісіі райвыканкама.**

Чалавек і яго справа

# НА ВАРЦЕ ЗДАРОЎЯ

***Чатырнаццаць гадоў назад прыехала ў наш раён сям'я маладых урачоў Бурванаў. Перад пачаткам іх самастойнай працы ў галіне аховы здароўя была вучоба ў Гродзенскім медыцынскім інстытуце, інтэрнатура ў адной з медыцынскіх устаноў г.Бабруйска.***

***Сёння, бадай, няма ў раёне чалавека, які б не ведаў граматнага і адказнага ў рабоце ўрача-хірурга Вячаслава Аляксандравіча Бурвана і ўчастковага ўрача-тэрапеўта, добрага спецыяліста, чулага чалавека Галіну Мікалаеўну Бурван.***

***Галіна Мікалаеўна, якую на рабочым месцы ў кабінеце паліклінікі сфатаграфаваў наш фотакарэспандэнт Іван Лукановіч, у размове аб працоўных буднях медыкаў зрабіла акцэнт на набалелым: эфектыўна лячыць людзей становіцца ўсё больш складана, з-за недахопу фінансавых сродкаў няма магчымасці набываць неабходныя лякарствы, медыкаменты, абсталяванне. Апаратура старая, зношаная. Напрыклад, не працуе зонд, і на абследаванне пацыентаў прыходзіцца накіроўваць у Бабруйск. За апошнія гады павысілася захворваемасць людзей, бо ў большасці нізкі імунітэт, чаму спрыяюць розныя фактары — эканамічныя, экалагічныя, выдаткі чарнобыльскай аварыі... Звычайная прастуда зараз праходзіць з рознага роду ўскладненнямі, цячэнне хвароб больш працяглае. Пры ўсіх жыццёвых цяжкасцях людзям трэба лепш сачыць за сваім харчаваннем, ужываць як мага больш вітамінаў.***



***У калег па рабоце, пацыентаў Г.М.Бурван карыстаецца аўтарытэтам і павагай. Яна прыемная ў зносінах, уважлівая і дасціпная.***

***У вольны ад работы час, як прызналася, займаецца "усім патроху", што ўласціва любой жанчыне: чытае, шые, вяжа, кулінарыць, гуляе з дачкой-школьніцай. А сын Бурванаў вучыцца ў Магілёўскім тэхнічным ліцэі.***

# ЛЕТНІЯ ПАХОДЫ

У чэрвені і ліпені на базе нашай станцыі турыстаў дзве змены працаваў аздараўленчы лагер. За гэты час тут адпачылі 28 выхаванцаў станцыі. У паходах па роднаму краю рабяты пазнаёміліся з прыродай, жыццём насельніцтва нашага, Клічаўскага і Бабруйскага раёнаў.

Праграма знаходжання рабят у лагеры была вельмі насычанай: спаборніцтвы, гульні, конкурсы, святы. Асабліва запомнілася "Свята Нептуна", праведзенае на беразе Чыгірынскага вадасховішча. Ролю Вядзянога тут адмыслова выканаў Міша Зацэпін. У конкурсе на лепшую байку пра турыстаў лепшай была Юлія Савенка.

У старэйшай узроставай групе найбольш актыўна прайшлі спартыўныя спаборніцтвы. Запомніліся рабятам і вечары з песнямі пад гітару, дзе першай заўсёды была Раіса Вежнавец.

Варта адзначыць, што падчас пешых пераходаў, калі на шляху нам сустракаліся помнікі воінам Айчыннай вайны, рабяты наводзілі вакол іх належны парадак, ускладалі да падножжа палявыя кветкі, мінутай маўчання ўшаноўвалі памяць загінуўшых. У ідэальным парадку пакідалі мы за сабой і ўсе месцы турысцкіх стаянак. У сувязі з дажджлівым надвор'ем не кожны раз даводзілася начаваць у палатках, і прытулак нам давалі ў школах. Мы шчыра ўдзячныя дырэктарам і настаўнікам Любоніцкай СШ — А.В.Казакову і А.Ф.Еўдакімаву, Бараўіцкай СШ — М.Ц.Казлову і А.С.Клімовічу, дырэктару велабазы У.С.Бяляўскаму, загадчыцы Барсукоўскага сельскага клуба В.П.Гушчынай за добразычлівасць і разуменне.

Сумесныя паходы яшчэ больш згуртавалі рабят, навучылі ўзаемавыручцы, дабрыні, цярпімасці, уменню выходзіць з экстрэмальных сітуацый.

**Надзея ГАРБУЗ.**
**Галіна ГАРОХ,**
**кіраўнікі паходаў.**

# АБ ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕННЯ ВЫБАРАЎ ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ І ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Парламента пачнецца за 70 дзён да выбараў і закончыцца за 40 дзён да выбараў. Права вылучэння кандыдатаў належыць палітычным партыям, зарэгістраваным Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь, не пазней чым за шэсць месяцаў да дня прызначэння выбараў, працоўным калектывам, а таксама грамадзянам шляхам збору подпісаў.

Грамадзяніну нашай рэспублікі, дасягнуўшаму ўзросту 21 год, прадастаўляецца магчымасць вылучацца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па любой выбарчай акрузе незалежна ад месца пражывання на тэрыторыі рэспублікі і месца работы. Пры гэтым будучы кандыдат у дэпутаты павінен пастаянна пражываць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў не могуць быць вылучаны грамадзяне, маючыя судзімасць, не знятую і не пагашаную ў парадку, устаноўленым заканадаўствам. Не дапускаецца сумяшчэнне абавязкаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў з аднaчасовым заняццем пасады Прэзідэнта РБ ці суддзі. Дэпутат указанай палаты не можа быць аднaчасова членам Савета Рэспублікі, дэпутатам мясцовага Савета дэпутатаў.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ад палітычных партый ажыццяўляецца вышэйшымі органамі гэтых партый. Партыя можа вылучыць кандыдатаў у дэпутаты па ўсіх акругах, дзе маюцца іх пярвічныя арганізацыі.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ад працоўных калектываў ажыццяўляецца на сходах (канферэнцыях) выбаршчыкаў у працоўных калектывах. Тут можа быць вылучаны кандыдат толькі па адной акрузе, на тэрыторыі якой размешчана прадпрыемства. Колькасць працуючых на ім павінна быць не менш 300 чалавек. Сход працоўнага калектыву склікаецца адміністрацыяй як па ўласнай ініцыятыве, так і па ініцыятыве групы выбаршчыкаў у колькасці не менш 150 чалавек. Адмаўленне адміністрацыі ад правядзення сходу можа быць абскарджана ініцыятарамі сходу ў судзе. На сходзе павінна быць больш паловы працоўнага калектыву. Рашэнне прымаецца большасцю галасоў.

Кандыдат у дэпутаты можа быць вылучаны ад некалькіх меншых працоўных калектываў з агульнай колькасцю працуючых не менш 300 чалавек на іх агульным сходзе. Ад кожнага працоўнага калектыву павінна прысутнічаць больш паловы яго саставу.

Вылучэнне кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў шляхам збору подпісаў ажыццяўляецца групай выбаршчыкаў у колькасці не менш 10 чалавек, пражываючых на тэрыторыі адпаведнай выбарчай акругі. Ініцыятыўная група па збору подпісаў рэгіструецца акруговай камісіяй, якая выдае членам групы пасведчанні і бланкі падпісных лістоў. Адмаўленне ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы можа быць у трохдзённы тэрмін абскарджана ў Цэнтральнай камісіі, а яе рашэнне — у Вярхоўным Судзе.

Збор подпісаў грамадзян можа весціся толькі членам ініцыятыўнай групы. У падпісным лісту могуць быць толькі подпісы грамадзян, якія пражываюць у адным населеным пункце, а ў гарадах з раённым дзяленнем — толькі ў адным раёне. Выбаршчык мае права падпісацца ў падтрымку пэўнага кандыдата ў дэпутаты толькі адзін раз. Удзел адміністрацыі прадпрыемстваў і арганізацый у зборы подпісаў і ўзнагароджванне выбаршчыкаў за ўнясенне подпісу не дапускаецца. Для рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў неабходна не пазней чым за 40 дзён да выбараў прадаставіць у акруговую выбарчую камісію падпісныя лісты, у якіх не менш 1000 подпісаў. Камісіі правяраюць верагоднасць подпісаў грамадзян.

Акруговая камісія не пазней чым на чацвёрты дзень пасля рэгістрацыі кандыдатаў перадае ў дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі для апублікавання паведамленне аб рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, зарэгістраваных па адпаведнай выбарчай акрузе. Перыяд перадвыбарнай агітацыі кандыдатаў у дэпутаты надыходзіць з моманту іх рэгістрацыі і працягваецца да дня выбараў. Кожнаму прадастаўляецца права падрыхтаваць перадвыбарныя плакаты, на што акруговай выбарчай камісіяй выдзяляецца сума ў памеры 50 мінімальных заработных плат. Кандыдат у дэпутаты мае права на апублікаванне сваёй перадвыбарнай праграмы ў рэспубліканскім ці мясцовым друку (яна павінна быць прадастаўлена не пазней чым за 20 дзён да выбараў), а таксама на адно бясплатнае выступленне па дзяржаўным тэлебачанні і на радыёвяшчанні.

Кандыдаты ў дэпутаты праводзяць сустрэчы з выбарчыкамі, гэтаму павінны садзейнічаць мясцовыя выканаўча-распарадчыя органы.

Грамадзянам Рэспублікі Беларусь, палітычным партыям, іншым грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам прадастаўляецца права ўсебаковага і свабоднага абмеркавання перадвыбарных праграм кандыдатаў, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцей, правядзенне агітацыі "за" ці "супраць" кандыдата ў дэпутаты на сходах, мітынгах, у сродках масавай інфармацыі, у час сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі.

Галасаванне на выбарах адбываецца на ўчастках для галасавання, якія ствараюцца не пазней чым за 2 месяцы да выбараў раённымі, гарадскімі (гарадоў абласнога падпарадкавання) выканаўчымі камітэтамі. Органы, якія ўтварылі ўчасткі, абавязаны не пазней 10 дзён абвясціць выбаршчыкаў аб іх межах і месцы размяшчэння ўчастковых камісій.

Участковыя камісіі ствараюцца не пазней чым за 45 дзён да выбараў у саставе 5-19 членаў па рашэнню выканаўчых камітэтаў.

Датэрміновае галасаванне пачынаецца за 5 дзён да асноўнага дня выбараў. Галасаванне ў дзень выбараў ажыццяўляецца з 8 гадзін раніцы да 20 гадзін вечара. У грамадзян, якія ў дзень выбараў па стану здароўя або іншых важкіх прычынах не могуць прыйсці на выбарчыя ўчасткі, ёсць магчымасць прагаласаваць па месцы свайго знаходжання. Участковая камісія па іх вуснай ці пісьмовай просьбе арганізоўвае такое галасаванне.

Выбраным у першым туры з'яўляецца кандыдат, за якога прагаласавала больш паловы галасаваўшых выбаршчыкаў. Абавязковай умовай для прызнання выбараў у першым туры адбыўшыміся з'яўляецца ўдзел у іх больш паловы выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання. Калі ў першым туры па выбарчай акрузе ніводны з кандыдатаў у дэпутаты не быў выбраны, а выбары былі прызнаны адбыўшыміся, акруговая выбарчая камісія прымае рашэнне аб правядзенні другога тура галасавання не пазней чым у двухтыднёвы тэрмін. Галасаванне ў другім туры праводзіцца па двух кандыдатах у дэпутаты, якія набралі найбольшую колькасць галасоў. Выбраным прызнаецца кандыдат, які атрымаў найбольшую колькасць галасоў выбаршчыкаў. Выбары ў другім туры прызнаюцца адбыўшыміся, калі ў іх прынялі ўдзел больш 25 працэнтаў выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання.

Паведамленні аб выніках выбараў публікуюцца ў сродках масавай інфармацыі не пазней чым на пяты дзень пасля выбараў. Рэгістрацыя выбраных дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляецца Цэнтральнай камісіяй.

Члены Савета Рэспублікі выбіраюцца дэпутатамі мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню на сваіх пасяджэннях, у рабоце якіх павінна прымаць удзел не менш 25 працэнтаў дэпутатаў кожнага Савета. Вылучэнне кандыдатаў ажыццяўляюць выканаўчыя камітэты і прэзідыумы адпаведных Саветаў базавага ўзроўню на сваіх сумесных пасяджэннях.

У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам вылучэнне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі пачынаецца за 90 дзён і заканчваецца за 60 дзён да заканчэння паўнамоцтваў Савета Рэспублікі дзеючага склікання да 13 лістапада 2000 года. Пасяджэнні дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню па выбранню членаў Савета Рэспублікі павінны прайсці да 7 снежня 2000 года. Членам Савета Рэспублікі можа стаць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, дасягнуўшы 30-гадовага ўзросту, які пражыў на тэрыторыі адпаведнага рэгіёна не менш 5 гадоў. Членам Савета Рэспублікі не можа быць выбрана асоба раней судзімая, судзімасць якой не знята і не пагашана ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку. Афіцыйныя вынікі выбараў устанаўлівае Цэнтральная камісія.

**Аддзел інфармацыі райвыканкама.**

